ЗЬМЕСТ



**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**


**ЗША**

Miss L. Michalcyk, 1211 Starkweather Ave., Cleveland, Ohio

Miss G. Kabuska, 10 Washington St., Highland Park, N. J.

Mr. M. Kuczura, 1217 N. Wolcott Ave., Chicago 22, Illinois

Miss S. Pleskacz, 17574 Brush Ave, Detroit 3, Mich.

Mr. M. Sienka, 24 Herman St., South River, N. J.

**Канада**

Mr. U. Baranovich, 111 Lindsey Ave., Toronto, Ontario

Mr. K. Karanieuski, 143 Cathleen St., W, Sudbury, Ont., Canada.

Mr. B. Lisconak, 472 Bayron Court, Oshawa, Ontario.

**Ангельшчына**

Mr. A. Laszuk, 97 Moore Park Road, London S. W. 6

**Бэльгія**

Mr. M. Streczyn, Place Hoover 19, Louvain

**Зах. Нямеччына**

Miss. R. Stankievic, (13b) Muenchen 13, Ainmillerstr 33/4

**Аўстралія**

Mr. W. Akavity, 80 Tapleys Hill Rd., Royal Park, S. A.

Mr. M. Nikan, 14 Steel St., Spotswood, Victoria

Mr. A. Vasilenia, 39 Edwin St., Croydon, New South Wales.

Адрыс рэдакцыі: „Беларуская Моладзь", 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.

Гадавая падпіска у ЗША й Канадзе — $2. Грашовыя пераказы выстаўляць на: "BYELORUSSIAN YOUTH"

Text in English and Byelorussian. Four times a year. Supplements issued irregularly.
Byelorussian Youth Association of America, 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.


# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ


**Квартальны часапіс беларускага маладога пакаленьня ў Амэрыцы**

**Выдае: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы**

**Рэдагуе: Калегія**

Год. выд. III. СТУДЗЕНЬ—САКАВІК 1961 г. № 9


***Вітаем із Сакавіковым***

***і Вяліködным Сьвятам!***

***Хрыстос Уваскрос!***

***Уваскросьне Беларусь!***

## ПАРА ЙСЬЦІ З ДУХАМ ЧАСУ !

Пачатак 1960-тых гадоў у Амэрыцы характэрны тым, што на палітычнай сцэне зьяўляецца й пачынае дзеіць новае, маладое пакаленьне, — якое ўзгадавалася й прайшло навуку ў часе й пасьля ІІ-ой сусьветнай вайны. Гэтую ,,учарайшую моладзь" трапна акрэсьліў адзін зь ейных духовых прадстаўнікоў, прэзыдэнт Кэнэды: ,, . . . народжаныя ў гэтым стагодзьдзі, загартаваныя вайною, здысцыплінаваныя цяжкім і горкім мірам, прадукт нашай спрадвечнай спадчыны" . . .

Новае пакаленьне прынесла з сабой і новы дух, які цяпер найбольш пашыраецца сярод амэрыканскіх студэнтаў. Сяньняшнія студэнты будуць заўтра фармаваць думаньне й сьветапагляд усяе нацыі; таму варта прыглядзецца, што гэта за новы дух і да чаго імкнуцца ягоныя носьбіты.

Перш-наперш яны адзначаюцца вялікім зацікаўленьнем грамадзкімі й палітычнымі справамі, шуканьнем новых шляхоў да разьвязаньня праблемаў грамадзтва. Ім замала здабыць асьвету; яны хочуць выкарыстаць яе, каб зьмяніць, паправіць сьвет, кіраваны цяпер іхнымі бацькамі. Пазнаючы дасканальнасьць і тэмп сучаснае тэхнікі, студэнтам цяжка адначасна ня бачыць асталасьці ў галіне міжлюдзкіх, грамадзкіх дачыненьняў. Адылі яны не здавальняюцца дыскусіяй, а бяруць ініцыятыву ў свае рукі — вывучаюць праблемы й падаюць канкрэтныя прапановы, як іх разьвязаць.

Побач зь ідэалізмам, найбольш характэрная адзнака новага пакаленьня — гэта крытычны падыход да ўсіх палітычных тра-

дыцыяў і догмаў. Яно ставіцца з падазрэньнем да ўсіх упірыстых і „нязломных" агітатараў і дэмагогаў. Затое цэняцца людзі, якія сьведама пашыраюць свае веды й гатовыя ўжыць іх для агульнага дабра. Вартасьць чалавека й пашана да яго вымяраецца ўжо ня тытулам, векам, ці даўжынёй службы, а больш практычна — паводля ягоных адказаў на пытаньні: „Што вы ведаеце? Што вы можаце рабіць? Чым вы карысныя грамадзтву?"

Вось колькі прыкладаў новага духу сярод студэнтаў:

— Нэгрыцянскія студэнты паўдзённых штатаў пры дапамозе мірных і здысцыплінаваных дэманстрацыяў дамагліся большых грамадзянскіх правоў для свае расы і вялікае маральнае перамогі (чаго спачатку ніхто не спадзяваўся, навет іхныя бацькі).

— Студэнты адразу падтрымалі праект Корпусу Міру, у межах якога амэрыканская моладзь мае памагчы паставіць на ногі гаспадарку, асьвету й тэхнічную адміністрацыю ў бедных і мала-разьвітых краёх сьвету. 10,000 студэнтаў Мішыганскага ўнівэрсытэту выслухалі прамову сяньняшняга прэзыдэнта Кэнэды на гэтую тэму — а 2-ой гадзіне ўначы, — і адразу выпрацавалі канкрэтныя пляны свайго ўдзелу ў праекце.

Трэба сказаць, што гэты новы дух рэзка розьніцца ад атмасфэры, якая яшчэ нядаўна панавала сярод большыні амэрыканскіх студэнтаў — ад мэханічнага „праходжаньня" курсаў, ад матар'ялістычнага пагляду, што асьвета — гэта перш-наперш шлях да матар'яльнага дабрабыту або лягчэйшага жыцьця. Студэнцкая моладзь уважалася за недарослых сяброў старэйшага пакаленьня, негатовых браць на сябе грамадзкія абавязкі. Мэханічная навука была „рыхтаваньнем да жыцьця", нормы якога дыктаваліся старэйшымі й да якіх моладзь мусіла бяз пытаньняў прытарноўвацца. Цяпер ужо пераважае пагляд, што вышэйшая асьвета павінна ўзгадаваць кіраўнікоў народу, разьвіваць у іх незалежнае думаньне ды пачуцьцё адказнасьці перад грамадзтвам. Заміж таго, каб толькі успрыймаць веду, студэнты адначасна могуць самі вытвараць ідэі й пляны на будучыню, як гэта ў большай ступені бывае за мяжою (у Карэі, Турэччыне).

Новы, „грамадзкі" дух мацнее сярод студэнтаў і пачынае таксама пашырацца сярод малодшае моладзі — вучняў сярэдніх школаў.

* * *

Мы, працаўнікі на беларуска-амэрыканскай грамадзкай ніве можам толькі цешыцца з праяваў новага думаньня сярод амэрыканскага студэнцтва й моладзі наагул. Ідэалізм, сыстэматычнае й

*(Працяг на бал. 16)*



**Старэйшыя малодшым**

# СТУДЭНЦТВА БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЭРСЫТЭТУ У МЕНСКУ

**(пачатак 1920-тых гадоў)**

Сёлета спаўняецца сорак год ад заснаваньня Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту (Б. Д. У.). Заснаваньне ўнівэрсытэту бальшавікі прыпісваюць вылучна добрай волі камуністычнай партыі. На самой-жа справе гэта далёка ня так: у часе рэвалюцыі і ў грамадзянскую вайну беларускі нацыянальны рух дасягнуў такое сілы, што нельга было ня браць яго пад увагу. Бальшавікі хутка ўлічылі сілу беларускага руху й пачалі спробы перацягнуць гэты рух на свой бок рознымі абяцанкамі. Каб прыцягнуць жыхарства, бальшавікі пачалі арганізаваньне ўнівэрсытэту. Трэба тут зацеміць, што праект адчыненьня Беларускага Унівэрсытэту ў Менску быў высунуты беларускай інтэлігенцыяй яшчэ перад бальшавіцкай парой. Адчыненьнем ўнівэрсытэту бальшавікі да некаторай ступені спаралiжавалі прапаганду беларускіх нацыяналістых — Лёсіка, Некрашэвіча, Шыманскага ды іншых, а таксама дзейнасьць беларускіх эсэраў (сацыялістых - рэвалюцыянэраў), што вялі шырокую нацыянальную працу.

Унівэрсытэт быў адчынены ўвосень 1921 году. Я залічыўся спачатку на этнолёга-лінгвістычны аддзел, а налета перайшоў на прыродазнаўчы. Усяго прабыў я на ўнівэрсытэце сем з палавінай гадоў: пяць гадоў студэнтам і два з палавінай гады асьпірантам.

Неўзабаве пры ўнівэрсытэце стварыліся й студэнцкія арганізацыі, якія разгарнулі шырокую грамадзкую й навуковую дзейнасьць. Творчая думка на ўнівэрсытэце біла крыніцаю: рабіліся навуковыя зборкі, арганізоўваліся дыспуты на палітычныя й філязофскія тэмы. На дыспутах выявілася, што бальшыня студэнтаў ня трымаецца афіцыйнай савецкай ідэялёгіі. Тады камуністыя зрабілі чыстку сярод студэнтаў. Пасьля гэтага мерапрыёмства студэнцтва Б. Д. У. замкнулася ў сабе, на дыспутах больш маўчалі, ня выказвалі сваіх поглядаў.

Апісаць дзейнасьць усіх студэнцкіх арганізацыяў у кароткім артыкуле немагчыма. Я толькі спынюся на арганізацыях, што мелі нацыянальны характар.

Першай вялікай беларускай студэнцкай арганізацыяй, што згуртавала ўсіх студэнтаў - Беларусаў Б. Д. У. было „Усебеларускае Студэнцкае Аб'еднаньне Б. Д. У.". Дазвол на стварэньне арганізацыі быў дадзены Народным Камісарам Асьветы БССР, У. Ігнатоўскім у 1922 г. На арганізацыйны сход зыйшліся блізу ўсе студэнты ўнівэрсытэту. Актавая заля не магла зьмясьціць усіх; шмат каму давялося стаяць на калідоры. Плятформу арганізацыі выклаў студэнт мэдычнага факультэту Павел Каравайчык. Плятформа мела тры асноўныя пункты: паглыбленьне беларусызацыі ўнівэрсытэту, уцягненьне на ўнівэрсытэт большай колькасьці беларускай моладзі, акадэмічная й матар'яльная дапамога студэнтам. Супраць гэтай плятформы выступіў кіраўнік камуністычнай арганізацыі ўнівэрсытэту, Іван Гарбуз. Гарбуз стараўся давесьці, што ўсе арганізацыі, апрача камуністычнай, шкодныя й заклікаў студэн-

таў ісьці ў камуністычную партыю. Пачалася гострая дыскусія. Гарбуза падтрымаў студэнт Юргелевіч ды іншыя камуністыя. Камуністым вельмі трапна адказаў студэнт-гісторык Тодар Забела. Сказаў ён прыблізна наступнае: „Вы кажаце, што ўсе арганізацыі, што працуюць не пад камуністычным кіраўніцтвам — шкодныя. Вы мыляецеся. Пакажэце хоць адзін пункт нашага статуту, які-б мог пашкодзіць унівэрсытэту або навет савецкай уладзе. Такога пункту ў нас няма. Вось прыкладам разгледзім уцягненьне беларускае моладзі на ўнівэрсытэт. Што ў гэтым пункце дрэннага? У Беларускім Унівэрсытэце Беларусы павінны складаць прынамся 75%. Мы-ж бачым, што, прыкладам на мэдычным факультэце, Беларусы складаюць толькі 25%, а ўсе іншыя — пераважна Жыды*. Жыдоўскае-ж жыхарства на Беларусі не перавышае 9%. Мы ня бачым, каб камуністычная арганізацыя турбавалася аб уцягненьні Беларусаў на ўнівэрсытэт. Гучнымі воплескамі адказала заля на прамову Забелы.

Пытаньне аб стварэньні арганізацыі было пастаўленае пад галасаваньне. За тое, каб утварылася Усебеларускае Студэнцкае Аб'яднанньне, было пададзена 85% галасоў. Прагаласаваўшы, выбралі кіраўніцтва арганізацыі ў наступным складзе: аўтар гэтых радкоў, Тодар Забела, Павал Каравайчык, Лукаш Курыловіч ды Мікола Пашковіч.

Усебеларускае Студэнцкае Аб'яднаньне прайснавала нядоўга. Па нейкім часе нас паклікаў Ігнатоўскі і сказаў, што з палітычных меркаваньняў ён дазвол на стварэньне Аб'яднаньня касуе. Гэта азначала, што Аб'яднаньне трэба распусьціць.

Пасьля забароны Аб'яднаньня студэнты пайшлі да рэктара ўнівэрсытэту, праф. Пічэты, каб атрымаць дазвол на стварэньне новае студэнцкае арганізацыі — беларускага гуртка вывучэньня анархізму. У той час савецкая ўлада забараніла ўсе палітычныя партыі, апрача анархістых. У чым была існасьць анархізму, мы не разьбіраліся, але думалі, што хоць пад гэтай шыльдай нам удасца захаваць нацыянальную студэнцкую арганізацыю. Праф. Пічэта дазвол нам даў. Адразу-ж мы пастанавілі склікаць сход. Лукаш Курыловіч пачаў рыхтавальную працу: былі вывешаныя на ўнівэрсытэце абвесткі й пачалася агітацыя. На арганізацыйны сход прыйшло шмат народу, але куды менш чымся на заснавальны сход Аб'яднаньня. Курыловіч зрабіў на сходзе грунтоўны даклад аб анархістычных плынях ды аб нашых плянах. На сход прышоў і прадстаўнік Ц. К. Камуністычнай Партыі БССР, нейкі Абрамчук. Ён таксама браў удзел у дыскусіях. Адбылося ў нас чатыры сходы. На кажны сход прыходзіла да нас усё болей і болей людзей. На чацьвертым сходзе Абрамчук выступіў з рэзкай прамовай супраць нас і сказаў, што працу нашую трэба спыніць, а рэктар Пічэта заявіў нам, што дазвол на адчыненьне гуртка ён анулюе. Ад таго часу мы ўжо цьвёрда перакаваліся, што стварыць трывалую нацыянальную студэнцкую арганізацыю за бальшавікамі немагчыма, таму мы болей і не рабілі захадаў. Бальшыня з нас улучылася ў працу легальных

(Працяг на бал. 14)

* Нацыянальны склад студэнцтва Б. Д. У. ў 1921-22 г. быў такі: Беларусаў 398, Жыдоў 926, Расейцаў 43, Палякоў 8, іншых 15. (Паводля „Працы Б. Д. У., № 2-3, 1922, б. 33).



# BYELORUSSIAN POLITICAL MOVEMENT 1900 - 1918

*Period of "Naša Niva"*

The Byelorussian cultural revival of the 19th century and the increased interest in their country's history gave the new generation of Byelorussians a sense of direction toward regaining their national independence. At the turn of 20th century the time was ripe for a political liberation movement. The first Byelorussian political organization, "Biełaruskaja Sacyjalistyčnaja Hramada" (Byelorussian Socialist Community) was established in Miensk in 1902. Its founders were students — brothers Ivan and Anton Łuckievič; writer, Kazimier Kastravicki; and worker, Viktar Zielaziej.

The "B. S. H." printed illegal political brochures and appeals as well as patriotic writings by F. Bahuševič, J. Niasłuchoŭski, and other, younger poets. At its conventions in 1903 and 1906 the "B.S.H." adopted a program, leading toward establishment of an autonomous Byelorussian republic with parliament in Vilnia.

The military defeat of the Russian Empire by Japan in 1905 and the following revolution forced the Czarist regime to liberalize its policies concerning political and religious freedom of its subjects. The leaders of the "B.S.H." (the Łuckievič brothers, V. Ivanouski, A. Ułasau) took advantage of this new situation and in 1906 began publishing the first legal newspaper in Byelorussian language — Naša Dola" (Our Fate). Despite the moderate aims of "Naša Dola" (it pledged to defend the interests of Byelorussian farmers and to foster their self-education in a language they could understand) five issues were confiscated by the Russian authorities.

The editors then adopted an even less "radical" program and began publishing another newspaper, "Naša Niva" (Our Field). The main objective of this periodical was to make the Byelorussian people conscious of their nationality, and to help them recognize and demand their national rights. One should keep in mind, that the Russian regime did everything possible to destroy the Byelorussians as a nationality; firstly — by prohibiting the use of Byelorussian language in schools and public life, and secondly — by deliberately playing up the division of Byelorussian people along religious lines. The desired result of such policy was to make Byelorussians of Greek Orthodox faith identify themselves with Russians because of the same religion rather, than with other Byelorussians who happened to be of Catholic faith.

"Naša Niva" appeared regularly until 1915 and became the voice

of the Byelorussian cultural and political renaissance. Its editors attracted and united in their work all patriotic and educated Byelorussians — writers, poets, cultural and public workers. Thanks to perseverance and hard work of these men and women the ideals of Byelorussian national revival (the popular Byelorusssian term is



*I. Łuckievič, A. Łuckievič, A. Utasaŭ*

"adradžeńnie") spread rapidly among the masses of Byelorussian farmers and produced hundreds of dedicated patriots, all working toward realization of a common goal — welfare and freedom of their people. The pages of "Naša Niva" gave them the opportunity to develop their talents as writers, poets, or publicists. Along with the newspaper grew such outstanding figures of Byelorussian literature as poets *Janka Kupała* (a pseudonym; his real name was Ivan Łucevič), *Jakub Kołas* (Kanstantyn Mickievič), *Aleś Harun*



## 300-ыя УГОДКі ПАУСТАНЬНЯ У МАГІЛЕВЕ

Сёлета беларускі народ адзначае 300-ыя ўгодкі паўстаньня супроць Маскалёў у Магілеве.

У часе вайны Вялікага Княства Літоўскага з Масквой (1654-1667) Магілеў быў на нейкі час акупаваны Расейцамі. Аднак магілеўцы не скарыліся. 1-га лютага 1661 году (ст. ст.) на кліч бурмістра гораду Язэпа Левановіча „ПАРА! ПАРА!" — што азначала, што пара надыйшла брацца за зброю біць Маскаля — ды на кліч Вечавога Звону магілеўцы паўсталі. Нянавісьць да акупанта ды старанная арганізацыя паўстаньня гарантавалі перамогу нашым пра-прадзедам. Сем тысячаў Маскалёў было вынішчана, і Магілеў вызваліўся.

У вадзнаку за гэты гэраічны чын Магілеў быў зраўнаны ў правох із сталічным местам Вільняй, сябры магістрату атрымалі шляхоцтва, а бур-




містра гораду Язэп Левановіч дастаў падвойнае прозьвішча ПАРА - ЛЕВАНОВІЧ.

Гэтта зьмяшчаем гэрб Магілеву. На ім паказаныя вежы места ды Пара-Левановіч у браме Ратушы з катаўскім мячом, заклікаючы да паўстаньня .

(Aleksander Prušynski), *Maksim Bahdanovič* and writer *Maksim Harecki.*

Young Byelorussians, who were united around "Naša Niva", maintained in their work a very high standard of morality, selflessness, courage and dedication to their ideals. They considered it their duty to devote their life helping those who need help most, — in this case their own Byelorussian people, — trying to raise its cultural and economic standing, fighting for its political rights and national dignity.

### *Outstanding personalities*

The outstanding Byelorussian political leaders of this period were the brothers Ivan and Anton Łuckievič, founders of the "Byelorussian Socialist Community". *Ivan Łuckievič* was an archeologist by profession and an expert on antiquities. He organized and maintained the Byelorussian Historical Museum in Vilnia, where he collected many treasures from Byelorussian past. *Anton Łuckievič* was an able editor and a productive publicist. He also proved to be an active and capable politician.

One of their closest co-workers was *Aloiza Paškievič* (who wrote under the name "Ciotka" — the Aunt) — a poet, journalist, editor, always active in Byelorussian political and charitative organizations. As a poet she gained special popularity among workers of Vilnia region, awakened and stirred by her revolutionary poems. She died in 1916 during a typhoid epidemic in the Lida district, where she was organizing aid for the sick. Her idealism and complete dedication to the cause of the Byelorussian people earned her a special memory in the hearts of her countrymen.

*Vactaŭ Łastoŭski* was another mainstay of the renaissance movement. He was especially concerned about the preservation and development of the Byelorussian language, and even more about making the truth about Byelorussia's famous past known to the people. His "Short History of Byelorussia" was very effective in this direction. Another concern of his was educating young people — to be patriots and morally upright citizens. It is interesting to note, that Łastoŭski gained his deep insight into the cultural and political needs of his people through self-education, without the benefit of formal college training.

The efforts of the group around "Naša Niva" radiated in many directions. Some of them worked with young people ("Ciotka", for instance), others tried to improve farming methods and introduced the cooperative movement in the villages. *Ihnat Bujnicki* organized a theatrical, choral and dance group, which soon became popular throughout the country. In order to popularize Byelorussian political aims abroad, delegates were sent to various international conventions and meetings.

### *Czarist rule is overthrown*

The outbreak of World War I in 1914 and the German-Russian hostilities put the two main centers of Byelorussian political movement on opposite sides of the front lines: Vilnia under the German occupation, and Miensk under the Russians. Political activities continued on both sides, but suffered from lack of communication and cooperation.

The year 1917 brought the revolution and a complete breakdown of Czarist regime in the Russian Empire. This turn of events was welcomed by Byelorussians and many other peoples, oppressed by the Czarist regime. New Byelorussian political parties and organizations sprang up overnight. On December 18, 1917 all these organizations, united in the Great Byelorussian Council, convoked the All-Byelorussian Congress in Miensk.



### *Congress in favor of independence*

The Congress, attended by 1872 delegates, representing the entire Byelorussian ethnic territory, elected *Ivan Sierada* as its president, and a council of the Congress to direct its deliberations. The fundamental question facing the Congress — the future political status of Byelorussia, split the delegates into 2 factions: those who favored complete independence, and the "federalists" who preferred close ties with Russia in form of a federation. The supporters of independence — veteran Byelorussian political leaders, former soldiers, and school teachers — soon gained the upper hand. This development did not escape the Russian Communists, who carefully observed the proceedings of the Congress. As soon as the pro-independence sentiment of most delegates became apparent, and they decided to proclaim an autonomous Byelorussian democratic republic, Communists moved in to break up the Congress by armed force.

The delegates met the next day under the protection of friendly railway workers and swore to continue the struggle for the realization of Congress decisions.

### *Byelorussian Government is formed*

In the beginning of 1918 the Germans resumed their push eastward, this time against the Red Army. As the Communists retreated from Miensk, the Council of the All-Byelorussian Congress assumed power in the country. In its *First Constitutional Act* the Council declared itself the temporary authority in Byelorussia and pledged to call the Byelorussian Legislative Assembly as soon as possible. It also announced the formation of the National Secretariate of Byelorussia, which was to execute and defend the political program, adopted at the All-Byelorussian Congress. The National Secretariate and the Council of the Congress actually became the first Byelorussian government and parliament of the 20th century.

On March 9, 1918 the Council of the Congress issued its *Second Constitutional Act,* which spelled out the political order and principles of the Byelorussian Democratic Republic ("Biełaruskaja Narodnaja Respublika" — B. N. R.):

— its territory, which includes all areas, where Byelorussian population constitutes majority.
— formation of the Byelorussian Legislative Assembly on basis of a general direct, secret and proportional election law,applicable to all citizens regardless of origin or religion.
— freedom of speech, press, meetings, strikes and associations; inviolability of person and property.

— full national and cultural autonomy for all peoples of the Republic.
— transfer of the land without ransom to those, who till it.
— public ownership of woods, lakes and natural resources.
— an eight-hour working day.

*Independence is proclaimed*

The idea of Byelorussian statehood gained in popularity in all parts of the country. The Council of the Congress was now remaned the Council of the B. N. R., which at its meeting on 24th and 25th of March, 1918 proclaimed Byelorussia an independent Democratic Republic:

"... Today, we, the Council of the BNR, are throwing off our native land the last yoke of national dependence, forced by Russian Czarism on our free and independent country.

The Byelorussian Democratic Republic is proclaimed free and independent state. The peoples of Byelorussia themselves, through their Legislative Assembly, shall decide on future international relations of Byelorussia.

...The B. N. R. confirms all rights and freedoms of its peoples and citizens, proclaimed by the Constitutional Act of March 9, 1918.

Proclaiming the independence of the B. N. R., the Council hopes, that all freedom-loving peoples will help the Byelorussian people to realize its political and national ideals.

Miensk, March 25th, 1918, Council of the B. N. R.".

The Byelorussian Independence Day — March 25th, 1918, is now commemorated by all Byelorussians, wherever they may be: by the emigrants in the free world, as well as by the members of the Byelorussian underground.

The independence of the B. N . R. was recognized *de jure* by the Ukraine, Czechoslovakia, Austria, Finland, Poland, Turkey, Lithuania, Latvia, Estonia, Armenia, and Georgia. It was recognized *de facto* by most other countries of the world. The Byelorussian government soon established diplomatic and commercial relations with many European countries and began the difficult task of shaping the future of the long-enslaved and war-ravaged Byelorussian nation.

*Licvin*

**Беларускія спартсмэны ў Токіё**

У сталіцы Японіі мае адбыцца чэмпіянат сьвету ў клясычным дужаньні. На праведзеных нядаўна ў Маскве адборных змаганьнях тры Беларусы ўвайшлі ў зборную каманду СССР: чэмпіён Рымскае Алімпіяды Алег Караваеў, Іван Качаргін і Мікола Чучалаў.



**Выданьне Слуцкага Альманаху**

Рэдакцыя „БМ" падае да ведама, што справа выданьня Слуцкага Альманаху сыстэматычна вядзецца далей. Альманах мае складацца з гэткіх разьдзелаў: а) гістарычны нарыс пра Случчыну; б) геаграфія Случчыны; в) Слуцкае паўстаньне; г) Слуцкае паўстаньне ў мастацкіх творах.

Рэдакцыя „БМ" просіць усіх, хто можа спрычыніцца да ўзбагачэньня рукапісу якімі-небудзь матар'яламі ці пажаданьнямі, зрабіць гэта безадкладна. Асаблівую вагу для выданьня маюць гістарычная фатаграфіі. Просьба карэспандэнцыю й матар'ялы слаць на адрыс часапісу „Беларуская Моладзь".

**Не-Беларусы, вывучаючы беларускую мову,** могуць атрымаць дзяржаўную стыпэндыю. Беларуская мова ўлучаная ў лік большых сучасных моваў сьвету, на вывучэньне якіх Адукацыйны Акт амэрыканскага Міністэрства дзяржаўнае абароны дае стыпэндыі. Дэтальныя інфармацыі аб гэтым пададзеныя ў „Бюлетэні" Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, а таксама іх можна атрымаць беспасярэдня, пішучы на адрыс:

Language Fellowship Unit
Language Development Section
Division of Higher Education
U S. Office of Education
Washington 25, D. C.

## ХРОНІКА

**КЛІУЛЕНД**

Аддзел ЗБМА супольна з аддзелам БАЗА ладзілі сустрэчу Новага 1961-га Году. Вельмі прыгожа грала аркестра „Палесьсе" пад кіраўніцтвам Уладзімера Літвінкі. Да колькіх танцаў пяяла салістка Іра Каляда. Грамада была вялікая й вясёлая, а сустрэча — удалая й прыбытковая. .

Перад калляднымі сьвятамі на тэлевізыйнай праграме Галіна Кананчук і Уладзімер Страпко ў нацыянальнай вопратцы віталі жыхароў Кліўленду ад імя Беларусаў з калляднымі й наваго́днымі сьвятамі. Гэтае вітаньне паўтаралася колькі разоў.

На праваслаўныя Каляды аддзел ЗБМА зарганізаваў калядоўшчыкаў, што наведалі з зоркаю беларускія хаты. Запрашалі да сябе таксама й Казакі, якія належаць да беларускае парахвіі. Вельмі прыгожая была зорка, зробленая Андрэем Лук'янчыкам. Людзі прыхільна віталі калядоўшчыкаў, бо яны ўздымаюць сьвяточны настрой ды падтрымваюць нашыя традыцыі.

ЗБМА ўзяло ўдзел у ладжанай 8-га студзеня ялінцы для дзяцей, памагаючы ў закупе падарункаў ды выступаючы ў мастацкай частцы.

Сёлета 22 студзеня быў высьветлены каляровы гукавы фільм зь міжнароднага фэстывалю, у якім узялі ўдзел і Беларусы: танцавальны гурток (з народным танцам „Лявоніха") і хор моладзі пад кіравецтвам сп. К. Кіслага. Гэты фільм паказваюць у школах і розных арганізацыях, каб пазнаёміць з народным мастацтвам розных нацыянальнасьцяў.

12 лютага адбыўся чародны міжнацыянальны фэстываль, які штагоду ладзіць арганізацыя народнага мастацтва, куды належыць кліўлендзкі аддзел БАЗА. У фэстывалі ўзяло ўдзел 17 нацыянальнасьцяў. Два танцавальныя гурткі пад кіравецтвам Мані Лук'янчык выканалі два танцы —

пад музыку Олі Дубаневіч (акардыён) і Колі Стрэчыня (гітара). Беларуская моладзь, як і папярэднымі гадамі, зарэпрэзэнтавалася вельмі добра, заняўшы адно зь лепшых месцаў.

---

**НЬЮ-ЁРК**

7 студзеня (праваслаўныя Каляды) ЗБМА ладзіла ялінку ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры. Ялінка пачалася танцамі пад музыку з кружэлак ды частаваньнем пры буфэце. Мастацкая частка складалася з мантажу, напісанага сп-няй Н. Арсеньневай, а зрыхтаванага сёстрамі Алай і Галінай Орса пры ўдзеле сяброў і сяброўак ЗБМА, ведамых ужо калядоўшчыкаў. Мантаж пакінуў на сабе добрае ўражаньне. Пасьля раздаваліся цікавыя жартаўлівыя падарункі спад хораша прыбранай ялінкі. Хоць сьвяты Мікалай (Міхась Казьлякоўскі) крыху й прыпазьніўся, але справіўся ўсіх надзяліць весялосьцяй. Скончылася

# МОЎНЫЯ РЭСУРСЫ АМЭРЫКІ

*Праект Міністэрства Асьветы ЗША*

Як мы ўжо пісалі ў № 8 „БМ", Міністэрства асьветы ЗША пачало вывучэньне наступнае праблемы:

ЯК ЗАХАВАЦЬ ВЕДАНЬНЕ Й ЗАЦІКАЎЛЕНЬНЕ РОДНАЙ МОВАЙ СЯРОД ВЫРОСЛЫХ СЯБРОЎ ЭТНІЧНЫХ ГРУПАЎ АМЭРЫКІ, І ЯК ПРЫШЧАПІЦЬ ГЭТУЮ МОЎНОЮ СПАДЧЫНУ МАЛАДОМУ ПАКАЛЕНЬНЮ.

У міжчасе рэдакцыя „БМ" атрымала падрабязны апытальнік, пры дапамозе якога арганізатары праекту „Моўныя рэсурсы" жадаюць даведацца:

— аб дзейнасьці этнічных арганізацыяў у кірунку захаваньня роднае мовы й прышчапленьня яе моладзі,

— зь якімі цяжкасьцямі сустракаюца гэтыя арганізацыі,

— парады й прапановы, як перамагчы гэтыя цяжкасьці, і як могуць не-этнічныя ўстановы памагчы ў гэтай справе.

Рэдакцыя „БМ" пераклала гэты апытальнік у беларускую мову й разаслала яго, як дадатак да „Беларускае Моладзі". Хто жадае атрымаць гэты дадатак, хай зьвернецца да рэдакцыі „БМ".

Апрача таго, сябры рэдакцыі адказалі на пытаньні праекту „Моўныя рэсурсы" і ў сваім адказе падалі, між іншага, гэтую прапанову:

...*Каб мясцовыя школьныя ўлады ўвялі навучаньне моваў от этнічных групаў Амэрыкі ў пачатковых, сярэдніх і вышэйшых школах. Асабліва важна ўвесьці навучаньне гэтых моваў на пачатковым і сярэднім узроўні школьніцтва, калі дзеці бліжэй зьвязаныя з мовай свае сям'і й этнічнае групы.*

Школы павінны ўвесьці навучаньне ўсіх тых не-ангельскіх моваў, што яшчэ ўжываюцца ў сямейным і грамадзкім жыцьці дадзенага гораду ці сяла".



ялінка танцамі ў вясёлым асяродзьдзі.

На наступны дзень аддзел ЗБМА ўзяў удзел у наладжанай жаноцкай арганізацыяй ялінцы для дзяцей. Быў ізноў паказаны калядны мантаж. Да ўдачы цімала прыслужылася дэкарацыя: умэбляваная беларуская хата. У дэкараваньне яе найбольш працы ўлажылі сябры Аўген Несьцяровіч і Мікола Александровіч.

11 студзеня ў Грамадзкім Цэнтры адбылася „Вечарына моладзі". Бальшыня ўдзельнікаў — беларуская моладзь зь Нью-Ёрку, Саўт-Рывэру, Нью-Брансўіку. Грала вясёлая аркестра Юркі Чарвінскага. У часе вечарыны была праведзеная багатая лятарэя, наладжаная, галоўна, сяброўкамі ЗБМА Таняй Каралевіч і Оляй Мельяновіч. Былі таксама праведзеныя выбары каралевы й прынцэсы балю. Бальшынёй былі абраныя Оля Мельяновіч за каралеву й Поля Груцько за прынцэсу.

Ньюёркаўскі аддзел ЗБМА пачаў рабіць стараньні, каб сёлета паставіць п'есу (хіба, камэдыю). Дзеля гэтага моладзь запрасіла на сваю зборку сп-ню Натальлю Орса, каб даведацца пра п'есу „Мікітаў лапаць". Сп-ня Орса вельмі ахвоча згадзілася прыйсьці ды расказала ня толькі аб п'есе, але й аб беларускім тэатры калісьці на бацькаўшчыне, а таксама аб тым, як беларуская моладзь заўсёды захаплялася мастацкай самадзейнасьцяй.

У наступным нумары часапісу спадзяёмся падаць ужо пра ход рыхтаваньня п'есы.

Ад пачатку лютага сябра Мікола Александровіч выконвае функцыю спартовага рэфэрэнта ў ньюёркаўскім аддзеле ЗБМА. Ён будзе таксама кіраваць пятнічныя зборкі моладзі, калі ў праграме іх будзе спорт.

**Кіёск ЗБМА.**

У студзені сёлета ньюёркаўскі аддзел ЗБМА залажыў беларускі кіёск, што знаходзіцца ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры (401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.). Кіруюць кіёск сябры ЗБМА: Ніна Каваль, Кастусь Верабей і Вячка Станкевіч. Адчынены ён штонядзелі ад 1-ай гадзіны папаўдні. У ім можна набыць беларускія кніжкі, часапісы, кружэлкі, фатаграфіі выдатных дзеячоў, беларускія паштоўкі й іншае. Мэта кіёску — пашырэньне беларусаведы й прапанаваньне выгаднейшага набыцьця выданьняў. Кіраўніцтва кіёску просіць зварачацца па каталёг.

**КАНАДА**

**Моладзь Ашавы.**

Недалёка на ўсход ад Таронта ляжыць невялікі прамысловы гарадок Ашава. У ім жыве шмат новаканадыйцаў, у тым ліку й беларускага паходжаньня. Шмат якія Беларусы Ашавы разам зь Беларусамі Таронта выяўляюць актыўную грамадзкую й культурна-асьветную дзейнасьць. Асаблівую заслугу ў гэтым мае моладзь Ашавы, дзякуючы дбайным стараньням настаўніка сп. Б. Лішчонка. Ад колькіх год хлапцы й дзяўчаты бяруць дзейны ўдзел у канцэртах і культурных імпрэзах, памагаючы старэйшым пашыраць імя Беларусі. Асабліва ўдалым быў апошні канцэрт пры калядной ялінцы ў Таронта 15 студзеня сёлета. Выступалі там — з музыкай, сьпевамі й скокамі — Ірына й Зьмітро Харэвічы, Жана Грабко, Валя Сідарава й Аляксандра Тарасэвіч. Важна адзначыць таксама й іншыя прозьвішчы маладых мастакоў, ведамыя шмат каму — гэта Ліля Харэвіч, знаная сваім частым выкананьнем

*Рыхтуймася да зьезду ЗБМА ў верасьні!*



**(Зьлева направа): Сп. В. Лішчонак, З. Харэвіч, А. Тарасэвіч, Ж. Грабко, І. Харэвіч і В. Сідарава у часе калядная канцэрту ў Тароньце 15 студзеня 1961 г.**

беларускіх мэлёдыяў на акардыёне, а таксама ўдзелам у п'есе „Пярэстая красуля", Валянтына Руднікевіч, частая выканальніца музыкі на акардыёне, Жорж Мачка (Жорж славацкага паходжаньня), што шчыра памагае ў акампаніяваньні пры рэпэтыцыях, ды Ліда Петрык, ведамая сваім удзелам у сьпевах.

Трэба спадзявацца, што й надалей моладзь Ашавы будзе, як і дагэтуль, выяўляць энэргічную актыўнасьць, за што Беларусы Ашавы, Таронта й усяе Канады будуць удзячныя моладзі й ейнаму кіраўніку сп. Лішчонку.

**Антон Маркевіч.**

## САУТ РЫВЭР

У сьнежні 1960 г. адбыліся перавыбары управы Саюзу Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. На чале новае ўправы стаіць **Рыгор Арцюшэнка.** Заступнікам старшыні быў выбраны **Лявон Шурак,** скарбнікам — **Міхась Палюховіч,** культурна-асьветным рэфэрэнтам — **Віталі Цярпіцкі, а спартовым** рэфэрэнтам — **Васіль Талмачэвіч.**

Паводля „Бюлетэню СБАМ"

## НЬЮ-БРАНСУІК

11-га лістапада 1960 г. адбыліся перавыбары ўправы аддзелу ЗБМА. У новую ўправу былі выбраныя: старшыня — Герда Кабушка, заступнік старшыні — Юрка Стагановіч, сакратар — Аня Стома, скарбнік — Надзя Хмялеўская і сябра ўправы — Аня Кажура.

Адразу пасьля перавыбараў аддзел узяўся за рыхтаваньне калядак. Калядоўшчыкі сабралі ў касу аддзелу 75 даляраў.

У часе „каляднай ялінкі", ладжанай беларускай школай у Нью-Брансўіку, выступаў хор аддзелу, які выканаў некалькі беларускіх песьняў.

Аддзел бярэ актыўны ўдзел у акадэміі 25 Сакавіка.

## СТУДЭНЦТВА Б. Д. У.

(Працяг з бал. 4)

прафэсійных студэнцкіх арганізацыяў, заняліся публіцыстычнай працай ды аддаліся болей навуцы. Ужо ў тых раньніх дваццатых гадох мы зразумелі, што бальшавікі ня зьбіраюцца паважна праводзіць беларусызацыю; яны ўсё больш і больш станавіліся на шлях старое русыфікатарскае палітыкі. Аднак ня ўсе студэнты гэта зразумелі. Знайшліся такія, што думалі шляхам канспірацыі паправіць справу й павярнуць падзеі ў лепшы бок. Першым такім быў студэнт гістарычнага факультэту Міхась Адзярыха. Ён падабраў сабе аднадумцаў, і яны пастанавілі арганізаваць патаёмны гурток для змаганьня з савецкай уладай. Зрабілі яны колькі нелегальных сходаў, на якіх крытыкавалі палітыку савецкае ўлады. Вельмі хутка гэты гурток быў выкрыты і ўсе сябры арыштаваныя. Па гэтай-жа справе былі



арыштаваныя й браты Пашковічы, Мікола й Янка. Пашковічы да гуртка Адзярыхі не належылі, але яны раней былі сябрамі беларускай эсэраўскай партыі, і бальшавікі палічылі, што гурток Адзярыхі — гэта патаёмны ўплыў эсэраў. Усіх арыштаваных выслалі зь Беларусі, самога Адзярыху пасадзілі на пяць год у канцэнтрацыйны лягер, а братоў Пашковічаў пазьней расстралялі. Апрача гуртка Адзярыхі паўстала яшчэ колькі нелегальных гуртkоў*. Пры пушкінскай бібліятэцы пачаў выдавацца нелегальны часапіс „Парывы". Але рэдакцыя часапісу была хутка раскрытая й зьліквідаваная.

У 1929 г. у часы раскулачваньня студэнт Астраносаў (паходзіў з Гомельшчыны) пачаў арганізоўваць патаёмныя сходкі з мэтай заснаваць арганізацыю для абароны раскулачаных. У сваю арбіту ён уцягнуў і камсамольцаў. Такая самая доля, што й папярэднія арганізацыі, спаткала й гэтую: арганізатары й удзельнікі гэтых сходак былі выкрытыя, арыштаваныя й высланыя зь Беларусі.

Гаворачы аб нацыянальных студэнцкіх арганізацыях, нельга тут ня ўспомніць групы студэнтаў, якая аднэй зь першых пала ахвярай бальшавіцкага пагрому нацдэмаў у 1930 г. У Б. Д. У. вучылася ладная група студэнтаў (чалавек дваццаць) з Заходняе Беларусі, якая мела некаторыя „заслугі" перад савецкай уладай: у свой час гэтыя студэнты былі павадырамі савецкіх партызанаў у Заходнюю Беларусь. Калі ў Менску пачаліся арышты й бальшавікі запланавалі стварыць працэс нацдэмаў, камуністыя запатрабавалі, каб гэтыя студэнты выступілі ў друку супраць нацдэмаў. Студэнты адмовіліся гэта зрабіць. За адну ноч іх усіх арыштавалі і расстралялі. Я добра ведаў зь іх двох і іхныя прозьвішчы памятаю — гэта Язэп Багданскі й Хведаровіч.

Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт! На ўгодкі твайго саракагодзьдзя, мы, твае гадунцы, шлём табе з далёкай Амэрыкі шчырае й палкае прывітаньне! Люты акупант жывасілам наклеіў табе ярлык Леніна, але гэта ня здолее зьмяніць твае нацыянальнае істоты. Ты застанешся Беларускім Унівэрсытэтам, бо ты жывеш сілаю й духам Беларускага Народу.

Мацней і квітней, Дарагі Унівэрсытэт, гадуй і вырошчвай новыя кадры для змаганьня за адраджэньне Незалежнай Беларусі.

**Язэп Кіпель.**

* Ад некаторых удзельнікаў арганізацыі, названай тут „гуртком Адзярыхі", ведама, што гэта была шырокая канспірацыя, заснаваная на прынцыпе „пятак" — гуртkоў зь пяцёх усяго асобаў, заканспіраваных адзін ад аднаго. „Гурток Адзярыхі" быў толькі аднэю з такіх „пятак", выкрытых бальшавікамі. Іншыя так і засталіся нявыкрытыя, і калі ўдзельнікі й пацярпелі, дык не як сябры дадзенае арганізацыі, а дзеля розных іншых матываў. **Рэд.**

## AGRICULTURAL RESOURCES OF BYELORUSSIA

The position of agriculture in Byelorussia's economy is very important. More than half of the total population of of Byelorussia is engaged in agriculture. In 1956 total cultured land of the BSSR covered about 5,500,000 ha (13,585,000 acres). Although the Communists as early as the 1920's promised to transform the marshes of Byelorussia into arable land, there are still over

(*Continued on p.* 17).

ПАРА ЙСЬЦІ З ДУХАМ ЧАСУ *(працяг з бал. 2)*

крытычнае, вывучэньне балючых грамадзкіх праблемаў, імкненьне да разьвязаньня іх і прадуманая ініцыятыва — гэта якасьці, якія нам вельмі падабаюцца й да якіх мы самі ймкнёмся. Яны нас якраз і лучаць з новым амэрыканскім пакаленьнем.

Яшчэ больш цешымся з таго, што амэрыканская моладзь цікавіца доляй іншых, менш шчасьлівых народаў ды правільна разумее ролю Амэрыкі, як змагара за свабоду й лепшую будучыню ўсіх народаў сьвету — супраць тыраніі, галечы й цемры.

На вялікі жаль, да бальшыні нашай, беларуска-амэрыканскай моладзі (студэнцкай і не-студэнцкай) новы дух яшчэ не дайшоў. Шмат хто зь іх уважае беларускую (ды ня толькі беларускую) грамадзкую працу за „непатрэбную" й тлумачыцца гэтак: „Бачыце, трэба ўліцца ў амэрыканскае жыцьцё й таму трэба больш дбаць пра свой матар'яльны бок. Гэта тут паважаецца, а зь беларускае справы, ды наагул з усякіх ідэалістых толькі сьмяюцца". Ведама, што нашыя сябры, гэтак шчыра „ўліваючыся" ў амэрыканскае жыцьцё ды моцна трымаючыся падолу „старога духу", навет і не зацемілі, што ў Амэрыцы пашыраецца новы дух, гадуецца новае пакаленьне, якое не сьмяецца зь ідэалістых і зь беларускае грамадзкае працы. Штодня можна пераканацца, што зразуменьне беларускіх палітычных імкненьняў у Амэрыцы ўзрастае.

Трэба прызнацца, што й на тую моладзь, што бярэ ўдзял у беларускім грамадзкім жыцьці, амэрыканскі дух тымчасам мае вельмі малы ўплыў. Нешта ня відаць, каб моладзь шукала разьвязак набалелых грамадзкіх праблемаў, брала ініцыятыву ў тых галінах працы, дзе мала, або й нічога ня робіцца (прыкл.: інфармацыя чужынцаў аб Беларусі, нацыянальнае й спартовае ўзгадаваньне моладзі). Дзе-ж у нас крытычны падыход да старых спосабаў, да закасьцянелых догмаў? Няўжо мы ўвесь час будзем толькі моўчкі пераймаць ад старэйшых, — навет калі ведаем, што трэба было-б паправіць, — а самі нічога ня створым?

Пара ўжо схамянуцца, глянуць навокал сябе, узяць прыклад з амэрыканскага маладога пакаленьня. Пара й нам ісьці з духам часу!

**Рэдкалегія:** Ю. Станкевіч, В. Кіпель, В. Станкевіч, **Б. Русак, А. Несьцяровіч** (заступнік гал. кір. ЗБМА). Я. Запруднік.

**Карэспандэнты:** Ул. Дунец, Н. Жызьнеўскі.

**Адміністратар:** Ю. Станкевіч.

**Тэхнічны рэдактар:** В. Мельяновіч.

AGRICULTURAL RESOURCES *(cont. from p. 15)*

7,000,000 ha of marshes which could be transformed into agricultural land.

At present day all of Byelorussia's agriculture is collectivized and is in poor condition. Experiments on a national scale in the agricultural economy have caused a reduction of fields of grains. In order to conceal this situation the agricultural production is expressed in monetary value of current prices, rather than quantity of production.

Geographic and climatic conditions facilitate cultivation of various kinds of crop, grain and fruit in Byelorussia.

*Grain growing.* This is the most important branch of Byeolrussia's agriculture. The area under grain crops reaches roughly 60% of the total sown area. Among the grain *rye* ranks first. Over 30% of the grain crops is under rye. Next to rye Byelorussia produces: *wheat, barley, oats* and other cereals.

*Corn.* Corn on an industrial scale was never cultivated in Byelorussia. However, the present day government is attempting to eliminate traditional Byelorussian barley and oats and to increase the cultivation of corn. But the failure of the corn campaign is obvious.

*Industrial crops.* Flax ranks first in this group. Soils of Byelorussia are extremely favorable for flax growth. Flax production places Byelorussia in the ranks of the leading producers in Europe and in the world. Byelorussia produces over 25% of the total flax output of the USSR. Although all prerequisites exist for the development of a textile industry in Byelorussia using local flax as raw material, the Soviet government continues traditional Russian policy toward Byelorussia: it exports the flax for industrial processing from Byelorussia to Central-industrial districts of the Russian Soviet Republic and abroad.

*Kok-sagyz,* a rubber-yielding shrub grows very well and is widely sown in the Southern part of Byelorussia (Klincy, Staradub, Homiel etc.)

*Hemp* is another important technical crop cultured in Byelorussia. In its production Byelorussia takes the second place in the USSR.

*Hops, sunflower* etc. are representative of the industrial crop group grown in Byelorussia.

*Potatoes.* The soil and climatic conditions favor high yields of potatoes. Byelorussia is the biggest producer of potatoes of the USSR (about 20%). The main Russian cities such as Moscow and Leningrad are dependent entirely on their supply of potatoes from Byelorussia. Potatoes provide the raw material for the distilling and starch industries.

*Sugar beets.* Sugar beets have been cultivated in Byelorussia for more than a century. In Byelorussia there were over twenty refineries in operation in the 19th century. These were shut down by the Russian Government. At the present time, the cultivation of sugar beets is not too high and only two refineries are operating.

Several types of *tobacco* are cultivated in Byelorussia. The tobacco factories in Horadnia and Bransk are well known for their good quality products and are in the ranks of the biggest tobacco factories of the USSR.

*Fruit growing.* Climatic conditiones in Byelorussia facilitate the growing of a large number of fruits such as: apples, pears, plums, cherries, grapes, apricots etc. Orchards occupy in Byelorussia an area of over 150,000 ha or 361,050 acres The famous Byelorussian pear "Sluckaja Bera" and the apple "Antonauka" have a world wide reputation.

АДНАВІ ПАДПІСКУ НА „БМ" НА 1961 ГОД!